

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 21 (707) 8 ЧЭРВЕНЯ 2005 г.

## 7 чэрвеня - 125 гадоў з дня нараджэння Вацлава Іваноўскага



Вацлаў Іваноўскі - адзін з носьбітаў беларускай нацыянальнай ідэі нарадзіўся 7.06.1880 г. у фальварку Лябёдка Лідскага павету. Скончыў Пецярбургскі тэхналагічны інстытут, доктар тэхналагічных навук. Выдавец першай беларускай газеты "Свабода". Адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады (у 1904-05 г. сябар яе ЦК). У 1906-14 гг. кіраваў выдавецтвам "Загляне сонца і ў наша аконца". Супрацоўнічаў з газетамі "Наша доля" і "Наша ніва". Удзельнік Усебеларускага з'езду 1917 г. У 1918 г. міністр асветы ва ўрадзе БНР. З восені 1919 г. сябар Часовага беларускага нацыянальнага камітэта, сябар прэзідыюма Цэнтральнай беларускай школьнай рады, выдавец часопіса "Рунь". З сакавіка 1920 г. рэктар Менскага педінстытута. З кастрычніка 1920 г. дырэктар дэпартамента гандлю ва ўрадзе Сярэдняй Літвы. Пасля падпісання Рыжскай мірнай дамовы часова адышоў ад палітычнай дзейнасці. У 1922-39 прафесар Варшаўскага універсітэта. З восені 1939 г. выкладчык Віленскага універсітэта. З 17.11.1943 г. бурмістр г. Менска. У 1942 сябар, а ў 1943 кіраўнік Гал. рады Беларускай народнай самапомачы і Беларускай рады даверу. Знішчаны гестапа 7.12.1943 г. Смерць Іваноўскага ахвотна ўзялі на сябе савецкія партызаны.

## 8 чэрвеня - 110 гадоў з дня народзінаў Ігната Дварчаніна

Ігнат Дварчанін нарадзіўся 8 чэрвеня 1895 г. у в. Погіры Дзятлаўскага раёна. У 1918 г. сакратар культурна-асветнага аддзела Беларускага нацыянальнага камісарыяту ў Маскве. У 1919-20 гг. вёў культурна-асветніцкую працу ў Дзятлаўскім раёне, за што зняволены ў Беластоцкім канцлагеры. У 1921 г. арганізаваў у Даўгаўпілсе беларускія настаўніцкія курсы. У 1925 г. скончыў Пражскі універсітэт, доктар філасофіі. З 1926 г. у Вільні. Выкладаў беларускую літаратуру ў беларускай гімназіі. Уваходзіў у Галоўную ўправу ТБШ (1926-30). У 1928 годзе выбраны паслом у польскі сейм па спісе рабоча-сялянскага блока. У 1930 годзе асуджаны палякамі на 8 гадоў турмы. У выніку абмену палітвязнямі ў 1932 годзе - у Менску, у АН БССР. У 1933 г рэпрасаваны, у 1937 г. расстраляны. Пісаў вершы, выдаў "Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры" (1927).



*Помнік Ігнату Дварчаніну ў Дзятлаве*

## ВАЛЕРЫЮ СЛІЎКІНУ - 60

**Валеры Сліўкін** нарадзіўся ў Лідзе 8 чэрвеня 1945 года праз 11 месяцаў пасля вызвалення горада. У 1963 годзе з сярэбраным медалём закончыў лідскую школу № 3. У 1968 годзе з чырвоным дыпломам закончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт. Паступіў у штат Магаданскай геалагічнай экспедыцыі МДУ. У 1972 годзе абараніў дысертацыю, кандыдат геаграфічных навук. Да 1983 года працаваў геолагам, галоўным геолагам і начальнікам геалагічнай партыі на Чукотцы, на Калыме, у Якуціі, на Далёкім Усходзе, у Забайкаллі, Прыбайкаллі і Казахстане. Спецыялізацыя - пошук і разведка золата.



У 1983 годзе па стану здароўя вярнуўся ў Беларусь. Працаваў у геадэзіі і на будаўніцтве. З 1998 года старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея.

З 1983 года Валеры Сліўкін пачаў свой шлях краязнаўцы Лідчыны. Вялікі запас краязнаўчага матэрыялу, сабранага Валерыем Сліўкіным стаў базай для пачатку выпуску часопіса "Лідскі летапісец", які выйшаў у жніўні 1997 года, афіцыйна часопіс зарэгістраваны Валерыем Сліўкіным 29 чэрвеня 1999 года. Часопіс выходзіць выключна на беларускай мове.

Валеры Сліўкін узначальваў Лідскую арганізацыю Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, а пасля яе ліквідацыі ўзначаліў Лідскую арганізацыю Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута.

В. Сліўкін найбольш дасведчаны і аўтарытэтны спецыяліст у вобласці гісторыі Лідчыны. Яго пяру належаць дзесяткі артыкулаў, многія з якіх маюць высокі навуковы ўзровень. Сярод іх такія, як "Заснаванне Ліды", "Развагі пра Лідскі замак", "Найстаражытнейшыя пасяленні Лідчыны: Дуброўня, Дакудава, Сялец, Голдава, Ваверка, Мыто, Дылева, Крупава, Беліца, Збляны. Бердаўка, Кульбакі, Жырмуны, Малое Мажэйкава", "Шахматны кампазітар з Ліды", "Грамадзянская вайна на Лідчыне 1944-1954 гг.", "Хрысціянства на Лідчыне", "Урбанонімы горада Ліды. Лідскія гарадскія харонімы", "Урбанонімы горада Ліды. Лідскія гарадскія гадонімы і агаронімы", "Знішчэнне лідскіх яўрэяў", "Гісторыя адукацыі ў Лідзе", "Лідскай "свабодзе" - 100 гадоў", "Лідчына ў паўстанні 1794 года", а таксама шэраг іншых артыкулаў, артыкулаў напісаных у суаўтарстве ды апублікаваных у розных перыядычных выданнях. Усе пералічаныя артыкулы апублікаваны на беларускай мове.

Валеры Сліўкін напісаў практычна ўсю гістарычную частку кнігі "Памяць. Ліда і Лідскі раён".

На сёння менавіта на Валеры Сліўкіне замыкаюцца ўсе ніткі повязі шматвекавой гісторыі Лідскага краю.

Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць Валерыя Сліўкіна з юбілеем і зычаць яму здароўя і плённай працы на карысць Беларусі.

Пастановай № 33 ад 5.06. 2005 года Камітэта Ўшанавання (старшыня Анатоль Белы) за самаахвярную і плённую працу на ніве Беларускага Адраджэння, за карпатлівую краязнаўчую рупнасць па адраджэнні гістарычнай памяці, за кіраўніцтва Лідскай арганізацыяй Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута, за стварэнне часопіса "Лідскі летапісец"

**Валеры Сліўкін**

уганараваны

**медалём Мітрафана Доўнар-Запольскага**

**"За вяртанне гістарычнай памяці"**

з уручэннем дыплома і занясеннем у Кнігу гонару

**"Рупліўцы твае Беларусь"**.





# "Спадчына" дбае пра спадчыну

26 траўня ў Бердаўскай сярэдняй школе Лідскага раёна адкрылася выстава жывапісу выпускніка гэтай школы Рычарда Грушы. Было выстаўлена 60 палотнаў. Але "цвіком" мерапрыемства стала прэзентацыя мемарыяльных дошак у гонар Каранюка Аляксандра Аляксандравіча, старшыні Бердаўскага калгаса ў 1964-1993 гадах і Аляксандра Станіслававіча Дамбавецкага, уладальніка маёнтка Бердаўка ў 1864-1914 гадах.




*Мемарыяльная дошка ў гонар Аляксандра Дамбавецкага*

Ініцыятыва ўстаноўкі дошак належыць краязнаўчаму клубу "Спадчына", які дзейнічае пры Бердаўскім гістарычна-краязнаўчым музеі. Выканаў дошкі канешне ж Рычард Груша. А вось устанавіць і адкрыць іх не ўдалося, бо сябры клуба "Спадчына" не парупіліся атрымаць дазвол на ўстаноўку. І хоць дошкі павінны былі ўстанаўлівацца на будынках, якія належаць сельгаспрадпрыемству, і можна было абысціся рашэннем уласніка, але вырашана было пачакаць і атрымаць дазвол ва ўстаноўленым парадку.

Каго ж вырашылі ўшанаваць сябры бердаўскай "Спадчыны"?

**Каранюк Аляксандр Аляксандравіч**, кавалер ордэнаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, Працоўнага чырвонага сцяга, Знак пашаны і многіх медалёў быў старшынём калгаса 29 гадоў, пры ім была пабудаваная ўся новая Бердаўка, у тым ліку створаны і Бердаўскі музей.

**Дамбавецкі Аляксандр Станіслававіч**, пазашлюбны сын імператара Аляксандра II, валодаў маёнткам Бердаўка 50 гадоў, пабудаваў у Бердаўцы палац. У сілу


ОПЫТЪ ОПИСАНІЯ

МОГИЛЕВСКОЙ ГУБЕРНІИ

ВЪ ТРЕХЪ КНИГАХЪ.

А. С. Дембовецкаго.

Могилевъ на Днѣпрѣ.

1882.

Типографія Губернскаго Правленія.

*Тытульны аркуш кнігі Аляксандра Дамбавецкага*



*Палац Дамбавецкіх у Бердаўцы Лідскага раёна*

свайго паходжання А. Дамбавецкі жыў у маёнтку не так доўга, бываў у асноўным наездамі. Атрымаў адпаведную адукацыю, закончыў курс навук ва Універсітэце Святога Уладзіміра, атрымаў ступень кандыдата праваслаўнага вызнання. Кавалер ордэнаў Белага Арла, Святога Ўладзіміра 2-й і 3-й ступені, Святой Ганны 1-й ст. і Святога Станіслава 1-й ст. Меў знакі Чырвонага Крыжа і адзнакі за ўвядзенне ў дзеянне Палажэння аб сялянах і за пазямельнае ўладкаванне сялян. Быў ганаровым міравым суддзём Лідскай судова-міравой акругі. З 30 сакавіка 1872 года Магілёўскі губернатар - тайны дарадца. З 1993 г. сенатар. Краязнавец і грамадскі дзеяч. Ініцыятар выдання і рэдактар калектыўнай працы "Спроба апісання Магілёўскай губерні ў гістарычных, фізіка-геаграфічных, этнаграфічных прамысловых, сельскагаспадарчых, лясных, вучэбных, медыцынскіх і статыстычных адносінах" (кн. 1-3, 1882-1884). Ініцыятар стварэння губернскага гістарычна-этнаграфічнага музея ў Магілёве (1879). Садзейнічаў справе вывучэння гісторыі і этнаграфіі Магілёўшчыны, археалагічных раскопак у Падняпроўі.

І зусім не выпадкова, што дзве дошкі падрыхтавалі адначасова, бо менавіта дзякуючы Аляксандру Каранюку палац Аляксандра Дамбавецкага быў выратаваны ад разбурэння і сёння знаходзіцца ў дагледжаным стане. Тут месціцца вясковы дом культуры, і гэтаму помніку архітэктуры нічога не пагражае.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# Пакланіцца Паэту

Вось ужо дзесяць гадоў прайшло з часу смерці Максіма Танка, але не зарастае сцяжынка да могілак, дзе пахаваны паэт і яго жонка Любоў Андрэеўна, а таксама шмат хто з роду Скурко.

Нядаўна сюды прыехалі пісьменніца Вольга Іпатава, філосаф Ул. Конан і намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Бібліятэка прапануе" Людміла Несцяровіч. Мясціны гэтыя сапраўды паэтычныя, нездарма мясцовая Святкаўская школа носіць імя выдатнага беларускага паэта – класіка.



Менскія госці выступілі ў гэтай школе, дзе ўсё дыхае памяццю пра вялікага земляка, а таксама наведалі Мядзельскую раённую бібліятэку і школу, дзе сустрэліся з бібліятэкарамі і школьнікамі. Дарэчы, школьнікі прымалі ў гэтай сустрэчы актыўны ўдзел і нават атрымалі ад гасцей прызы за самыя арыгінальныя пытанні.

"Трэба не баяцца выклікаў XXI стагоддзя і смела глядзець у будучыню" – казала Вольга Іпатава. Яна распавяла аб тым, як пісьменнікі і творчая інтэлігенцыя адкрываюць беларусам імёны іх выдатных суайчыннікаў – змагароў за свабоду і незалежнасць Беларусі. У прыватнасці, нагадала гісторыю вызвалення з-пад шматгадовай цэнзуры імя Вацлава Ластоўскага, расказала некаторыя невядомыя старонкі жыцця М. Танка, у прыватнасці, яго адносіны да Наталлі Арсенневай як вынік асабістых з ім гаворак.

Аблашчаны ўладай, вымушаны ўвасабляць колішні літаратурны афіцыёз, паэт тым не менш высока цаніў і творчасць, і дзейнасць сваіх колішніх сяброў і паплечнікаў па беларускай справе з Заходняй Беларусі, якія апынуліся пазней у эміграцыі. Трагічны разрыў паміж вышынёй таленту і імкненнем да свабоды творчасці, з аднаго боку, і прыйманнем гвалу і антыбеларускасці як умовы спакойнага існавання з другога і сёння складае адну з драматычных старонак літаратурнага жыцця Беларусі.

Сустрэчы атрымаліся вельмі светлымі і аптымістычнымі. Пакуль жыве ў сэрцах беларусаў Паэзія, датуль будзе жыць і сама Беларусь.

*Юрка Трубец.*

**На фота:** беларускія пісьменнікі і настаўнікі ля помніка М. Танку і ягонай жонцы.

# Памятны падарунак

27 граўня празвінеў апошні школьны званок для выпускнікоў школ краіны. Традыцыйнае ўрачыстае свята апошняга школьнага званка адбылося і ў Германавічах, на якое ў якасці ганаровых гасцей запрaслі і настаўнікаў-пенсіянераў, у лік якіх трапіла і я.

Да гэтага дня грамадскія арганізацыі "Беларуская школа" і "Культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча "рыхтавалі памятны падарунак для выпускнікоў Германавіцкай школы.

Вырашылі падрыхтаваць для іх памятныя майкі з гісторыяй вёскі і выявамі яе старажытных будынкаў. Адной з галоўнейшых задач гэтых арганізацый-выхаванне свядомых беларусаў, тых, хто любіць свае карані, сваю мову, сваю гісторыю, сваю спадчыну.

Дапамагла нам ажыццявіць нашу задуму спадарыня Ала Орса-Рамана, прафесар н'юёрскага універсітэта, беларуска па паходжанні. Дзякуючы сваёй велізарнай энергіі, яна змагла паспяхова спалучыць сваю прафесійную кар'еру з грамадскай дзейнасцю ў беларускай эміграцкай супольнасці ў Амерыцы. Але найбольш часу і энергіі яна ўклала ў танцавальны ансамбль "Васілёк", кіраваць які пачала ў 1962 годзе. з тых часоў і да гэтага часу грыміць слава гэтага танцавальнага ансамбля. Яна яшчэ кіруе культурна-адукацыйнай фундацыяй, мэта якой дапамагаць беларусам застацца беларусамі на радзіме. Бо беларусы ў выгнанні добра ведаюць, што толькі на роднай зямлі, ў незалежнай Беларусі можна людзьмі звацца. А пакуль нас прымушаюць вучыць чужую гісторыю, як сваю, спяваць чужыя песні, як свае, карыстацца чужой моваю, як сваёю. Таму падарунак Алы Орса-Рамана для германавіцкіх выпускнікоў быў вельмі да часу. Майкі з выявай старажытнага касцёла, графскага палаца і тэкстам па гісторыі роднай вёскі былі каштоўным падарункам для 27 выпускнікоў, якія ім ўручыла я на ўрачыстай лінейцы. Спадзяюся, што яны будуць берагчы іх як самую дарагую рэліквію. Увечары ўсе выпускнікі, надзеўшы новенькія бялюткія майкі, ганарова шпацыравалі па Германавічах. Вялікі дзякуй спадарыні Але Орсе-Рамана за яе шчодрасць, вялікі дзякуй мастаку Ігару Марачкіну, які шчыраваў над дызайнам, вялікі дзякуй Тамары Мацкевіч і яе сябрам, усім, хто прычыніўся да гэтай акцыі. Яна ўдалася!

*Ала Райчонак, старшыня КАЦ імя Язэпа Драздовіча, старшыня Шаркаўшчынскай Рады ТБМ.*

## Новыя кнігі на сядзібе ТБМ

*Шэраг новых кніжак ды часопісаў па гісторыі, архітэктуры, літаратуры, а таксама кніжкі для дзетак з'явіліся ў менскай сядзібе ТБМ. Тут жа можна знайсці відэа, аўдыё, CD з добрай беларускай музыкай, майкі, значкі, календары.*

*Прыходзьце з панядзелка па пятніцу на Румянцава, 13 з 11-й да 17-й гадзіны.*

*Тэл. 8-029-707-40-01.*

# Алаіза Пашкевіч, пэўна, ганарылася б...

## І вершы піша, і навукай займаецца

**Анатоль Брусевіч надрукаваў першы свой верш у часопісе "Бярозка" № 9 за 1989 год. Вучыўся тады ў пятым класе сярэдняй школы. Настаўнік беларускай мовы і літаратуры Анатоль Васілевіч Хілько заўважыў паэтычныя памкненні свайго вучня і прывёў яго ў дзіцячы літаратурны гурток "Вянок" пры Доме - музеі Максіма Багдановіча. Там дзіцячымі талентамі апекавалася знакамітая беларуская паэтка Данута Бічэль - Загнетава.**

— Як заўсёды, напачатку кожнай справы шмат ахвочых. Так і нас, малых, набілася спярша многа. З часам адны зразумелі, што паэзія - не іх прызванне, адышлі. Былі прычыны ў астатніх. Карацей, засталіся мы з Палінай Варнаковай. Пасля і яна абрала іншую жыццёвую дарогу: захапілася маляваннем. Але мы ўсе, упэўнены, палюбілі паэзію, навучыліся яе разумець. Данута Янаўна ў гэтым сэнсе проста знаходка. Гэта яна вазіла нас у Вільню, на сустрэчу з Зоськай Верас. А яшчэ нас акаляла аўра пакояў, па якіх калісьці бегаў пяцігадовы Максім.

***-- А як адчуваў сябе дзевяцікласнік Анатоль Брусевіч пасля выдання першага зборнічка вершаў?***

— Гэта здарылася ў 1992 годзе. Спадарыня Данута, канешне, дапамагла, адрэдагавала кудлаватыя радкі. Уласнаруч напісала уступ да кніжкі. Ёсць там радкі грывогі за маю будучыню. Яна бачыла, як мяне пачалі запрашаць студэнты універсітэта, якія, на яе думку, дрэнна ўплывалі на мяне, бо самі займаліся штукарствам, а не паэзіяй, больш самалюбаваннем, чым працай над радком. Не ўхваляла Данута Янаўна і мае выступы з чытаннем вершаў на мясцовым тэлебачанні, друкаванне падборак у "Чырвонай змене". Лічыла, што гэта можа сапсаваць уражлівую юнацкую душу, пераканаць хлопца ў лёгкасці дасягнення паэтычных вяршынь.

Я тады вучыўся ў СШ № 32. Прыемна было, што настаўніцкі калектыў радаваўся за мяне, бацькі ганарыліся. Не, слава, не закружыла мне галаву. Падумалася, што поспех не выпадковы, нейкі талент ёсць у мяне, калі сама Данута Бічэль-Загнетава ўгледзела гэта. Другое перакананне было ў тым, што трэба вучыцца на факультэце беларускай мовы і літаратуры Гарадзенскага універсітэта.

***— Вучоба мала пакідае часу на іншы занятак. Трэба чамусьці аддаваць перавагу. Ці стаяла гэтая дылема перад вамі?***

— Я прывучыў сябе да парадку, таму паспяваў і на лекцыях пабыць, і прыняць удзел у пасяджэнні літаратурнага аб'яднання "Наднёманскія галасы". Не забудзьма, што выкладчыкамі ў мяне былі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў крытык Ігар Жук і паэтэса Алена Руцкая. Па-ранейшаму цікавілася маёй творчасцю Данута Янаўна.

***— Але было заўважана, што вы нібыта прыцішылі паэтычны поступ. Вершы з'яўляліся ў калектыўных зборніках, часопісах, анталогіі "Беларуская паэзія XX - га стагоддзя". Аднак да чарговага зборніка справа не дайшла...***

-- Ёсць такое. Прычына самая празаічная. На пятым курсе я цвёрда вырашыў заняцца навукай. Якраз на кафедры польскай філалогіі ўпершыню адкрывалася магістратура. Доктар філалагічных навук, прафесар Святлана Піліпаўна Мусіенка прапанавала мне паспрабаваць сябе. Здаў экзамены, быў залічаны. Займаўся даследаваннем паэзіі Адама Міцкевіча. Абараніў магістрацкі дыплом. Прапанавалі вучобу ў аспірантуры. Пагадзіўся. 27 красавіка 2004 года абараніўся па тэме "Фактары беларускай культуры ў творчасці Адама Міцкевіча. Віленска - Ковенскі перыяд". Давялося паездзіць па архівах польскіх гарадоў Кракава, Гданьска, Седліц.

***— На нядаўняй сустрэчы з настаўнікамі Гародні вы, адказваючы на пытанні, адзначылі, што свядома не з'яўляецеся сябрам творчых саюзаў, суполак, аб'яднанняў. Гэтая пазіцыя супадае з выказваннем ў вершы з юначага зборніка – "Я сам з сабой, і разам нам – цудоўна...".***

— Мяркую, што паэты заўсёды крыху адасобленыя людзі. У іх свой свет, сваё успрыняцце свету. Крышку дзіўны народ. Калі хочаце, эгаістычныя натуры, бо часцяком размову з чытачом вядуць ад першай асобы – ад сябе, значыць.

У той жа час у мяне ёсць шмат сяброў, якія пакуль што не маюць зборнікаў. Найперш гэта кандыдат гістарычных навук Эдуард Мазько, Віталь Клунейка. У добрых адносінах з навукоўцам і паэтам Юрасём Пацюпам. Мы ўдзельнічалі ў Літаратурных семінарах "Бязмежжа" (Гайнаўка), які арганізоўвае Беларускі саюз у Польшчы. Акрамя нас там былі Юры Гумянюк, Віктар Шалкевіч, Сяргей Астраўцоў, Васіль Дзівашэвіч, Святлана Тарасава і іншыя.

Мы, сямёра літаратараў, стварылі ў Гродне "Клуб паэтаў". Кожны змясціў свае творы ў кнізе "Лябірынты прывіднага замку" (Беласток). Добрыя стасункі склаліся ў мяне з рэдакцыяй часопіса "Калосьсе". Выданне некалькі разоў змяшчала мае падборкі вершаў.

***— Аднак мушу зноў звярнуць увагу на неабходнасць выдання новага зборніка Анатоля Брусевіча...***

— Мяне самога хвалюе гэтая праблема. Пяць гадоў ляжыць падрыхтаваны рукапіс кнігі "Падаю ў неба". Там сабрана звыш 30 вершаў. Мне за іх не будзе сорамна. Калі сабраць надрукаванае ў перыёдыцы за апошнія гады, то збярэцца твораў яшчэ на адзін - два зборнікі. Трэба парупіцца. Тым больш (смяецца), доктарскай дысертацыяй пакуль што не займаюся.

***— Чуў, што вы маеце адзіную радаслоўную з Цёткай (Алаізай Пашкевіч).***

— Па лініі маці адна з маіх далёкіх сваячак была сястрою шаноўнай Алаізы.

Гутарыў

*Антон Лабовіч, Гародня.*



**На здымку:** Анатоль Брусевіч чытае свае вершы. ***Фота аўтара.***

# У аб'яднанні — пісьменнікі і журналісты

Беларускі ПЭН-цэнтр -- рэспубліканскае аб'яднанне прафесійных літаратараў, створанае з мэтай пашырэння інтэлектуальнага супрацоўніцтва прадстаўнікоў творчых прафесій, удзелу ў міжнародным літаратурным супрацоўніцтве, развіцця беларускай культуры, выхавання ў грамадскай свядомасці высокіх гуманістычных ідэалаў.

***Летам 2000 года Гародню наведаў віца-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра Карлас Шэрман. Новымі сябрамі гэтага грамадскага аб'яднання сталі 11 чалавек — Сяргей Астраўцоў, Юры Гумянюк, Тэрэза Дудко, Валеры Задаля, Сяргей Канунніказ, Дзмітры Караў, Міхаіл Карневіч, Андрэй Кусяльчук, Ніна Палуцкая, Юры Пацюпа. Пісьменнікі Данута Бічэль, Юрка Голуб і Алесь Чобат былі прыняты раней. Званнем ганаровага сябра неўзабаве быў ўшанаваны Павел Мажэйка, які адбываў тэрмін на "хіміі".***

Пісьменнік і публіцыст Юры Гумянюк патлумачыў:

— Беларускі ПЭН-цэнтр створаны ў лістападзе 1989 года. У траўні 1990 года на Сусветным Кангрэсе прыняты ў Сусветную асацыяцыю пісьменнікаў "Міжнародны ПЭН-клуб". Зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі 16 лістапада 1990 года, перарэгістраваны 31 кастрычніка 1999 года. Як член Міжнароднага ПЭН-клуба Беларускі ПЭН-цэнтр мае статус "А" у ЮНЕСКА і дарадчы статус у ААН.

Доўгі час прэзідэнтам Беларускага ПЭН-цэнтра быў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Сябрамі Беларускага ПЭН-цэнтра, напрыклад, з'яўляюцца такія знаныя асобы, як Рыгор Барадулін, Святлана Алексіевіч, Уладзімір Арлоў, Міхась Тычына, Валянцін Тарас, Васіль Сёмуха і многія іншыя. Цяпер аб'яднанне ўзначальвае Лявон Баршчэўскі.

Увогуле, у склад Беларускага ПЭН-цэнтра сёння ўваходзяць звыш 100 пісьменнікаў, якія жывуць у Беларусі і за яе межамі — у Маскве, Санкт-Пецярбургу, Нью-Ёрку, Лондане, Берліне, Габраве, Варшаве і Беластоку.

У шэрагах Беларускага ПЭН-цэнтра шмат журналістаў, вучоных, якія вызначаюцца на літаратурнай ніве. Яны друкуюцца не толькі ў СМІ, змяшчаюць свае работы на Інтэрнэт-старонках, але і выдаюць зборнікі. Тры кнігі прозы мае ўласны карэспандэнт беларускай рэдакцыі "Радыё "Свабода" Сяргей Астраўцоў (Янычары", "Цэнзарская нявінніца", "Лісты да хома саветыкуса").

Той жа Ю. Гумянюк – карэспандэнт польскага штомесячніка "Czasopis", аўтар некалькіх зборнікаў паэзіі ("Водар цела", "Твар Тутанхамона", "Рытуал", рамана "Апосталы нірваны").

Выкладчык Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Юрась Пацюпа — паэт, празаік, крытык. Аўтар кнігі паэзіі "Ноч", шматлікіх літаратурна-крытычных артыкулаў.

Журналіст Валеры Задаля займаецца дакументалістыкай (аповесць "Раскажу аб тым, што ведаю", буклет "Імёны, якія заўсёды з намі", зборнікі "Самвыдат Гродзеншчыны", "Ваўкавыскі варыянт", "Мудры настаўнік Алесь Белакоз". "Ратуша").

Былыя рэдактары газет "Пагоня" (Мікола Маркевіч) і "Glos znad Niemna" (Андрэй Кусяльчук) стварылі папулярныя Інтэрнэт-сайты (www.pahonia.promedia.by: www.hrodna.by).

Журналіст Ніна Палуцкая спецыялізуецца на праблемах экалогіі, мае прыродаахоўны Інтэрнэт-сайт (www.nemanen-vironment.org).

Актыўна змяшчаюць свае публікацыі ў друку Міхаіл Карневіч. Павел Мажэйка. Зміцер Караў, Сяргей Канунніказ.

*Антон Лабовіч, Гародня.*



**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
**http://tbm.org.by/ns/**

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 6. 06. 2005 г. у 11.30. Замова № 1045.
Аб'ём 1 друкаваны аркуш. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1180 руб., 3 мес.- 3540руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.